www.nv-online.info

№ 11 (4160)

7 лютага студзеня 2017 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*



**ДАСЛОЎНА**

Наталля КАЧАНАВА,
кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта:

*– Будзе скарочана каля 30% дзяржаўных служачых, якія працуюць у Адміністрацыі прэзідэнта. Структура Адміністрацыі невялікая – гэта 108 дзяржслужачых у той новай штатнай колькасці, якую мы сёння прапанавалі.*

(Па выніках нарады ў кіраўніка дзяржавы 6 лютага 2017 г.)

**РУБАМ!**

# Хто далей будзе ў Беларусі гаспадаром на зямлі – селянін ці па-ранейшаму чыноўнік?

Добра, што на “Вялікую размову з Прэзідэнтам” запрасілі не толькі прадстаўнікоў сродкаў масавай інфармацыі, палітычных і грамадскіх структур, але і вядомых эканамістаў, прамыслоўцаў, аграрнікаў. Знакавым было выступленне, напрыклад, кіраўніка СВК “Агракамбінат “Сноў”, старшыні аграпрамсаюза Рэспублікі Беларусь **Мікалая Радамана.** Ён з глыбокім болем звярнуў увагу на важнейшую праблему: **хто далей будзе ў Беларусі гаспадаром на зямлі – селянін ці па-ранейшаму чыноўнік?**

Сёння розныя формы ўласнасці могуць і маюць права існаваць у сельскай гаспадарцы – як прыватная, так і фермерская, і іншыя, сказаў знакаміты аграрнік. Але што на практыцы? 17 ліпеня 2014 года выйшаў Указ №349, і цяпер “вертыкаль” у прымусовым парадку заганяе ўсіх-усіх у акцыянерныя таварыствы з дзяржаўнай формай уласнасці. Гвалт, самы сапраўдны гвалт над тымі, хто сваёй напружанай працай гарантуе харчовую бяспеку краіны.

– Мы ў мінулым годзе атрымалі дзевяць мільёнаў (*маецца на ўвазе долараў.* – **Рэд.**) чыстага прыбытку, – падкрэсліў Мікалай Вячаслававіч Радаман. – Мы акцыяніраваліся яшчэ ў 1994 годзе. У залежнасці ад стажу работы, ад класнасці, нагрузкі маем ужо на сённяшні дзень долевыя акцыі. Без удзелу дзяржавы. Мы нікому нічога не павінны, акуратна плацім падаткі, 7 мільёнаў на старыя грошы мелі сярэднюю зарплату за год. Навошта нам нешта мяняць?

Так, навошта дзяржаве заганяць у чыноўніцкае стойла тых, хто пачувае сябе гаспадаром на зямлі і працуе не пакладаючы рук? Вядома ж, калі ўлада забірае ў тых жа сноўскіх сялян акцыі, то губляецца ўсялякая зацікаўленасць у выніках работы. **“Мы хочам прывязаць чалавека да зямлі, каб ён за канчатковы вынік адказваў і быў зацікаўлены ў развіцці вытворчасці. Нас, наадварот, цягнуць ад зямлі, кажуць: ты будзеш з дзяржаўнай формай уласнасці. Да міністра іду – акцыяніруйся; звяртаюся вышэй, да віцэ-прэм’ера, які курыруе сельскую гаспадарку, – акцыяніруйся, у Дзяржмаёмасць – акцыяніруйся! І я не ведаю, як выйсці да людзей і што ім сказаць на справаздачным сходзе. Людзям, якія маюць долю ад канчатковых вынікаў, а яшчэ ў нас 620 пенсіянераў, што я ім павінен сказаць? Я адпрацаваў у гэтай гаспадарцы 40 гадоў, што я ім магу сказаць? Людзі, калі вы нешта некалі мелі, то вы зараз нічога не будзеце мець, таму што 85 працэнтаў акцый будуць належаць дзяржаве?”** – са слязамі на вачах гаварыў адзін з самых заслужаных аграрнікаў Міншчыны.

Падобна на тое, што Аляксандр Лукашэнка пачуў крык душы Мікалая Радамана. Але ж ці гэта праблема толькі СВК “Агракамбінат “Сноў”? Зямлі сапраўды патрэбны гаспадар, а не чыноўнік. Можаце ўявіць такую сітуацыю. Сёння раённай вертыкаллю камандуе адзін начальнік. У яго свае погляды на развіццё той ці іншай гаспадаркі. Ён дае указанні яе кіраўніку, усяму калектыву, што і як рабіць, куды ўкладваць грошы, якую сістэму аплаты ўкараняць… Праз год-два яго мяняюць, што ў нас звычайна і бывае, кабінет займае іншы чыноўнік, і новая мятла пачынае падмятаць па-новаму. А хто гаспадар на зямлі? Толькі не той, хто на ёй працуе.

Паводле слоў А.Лукашэнкі, рана яшчэ прымаць закон аб прыватнай уласнасці на зямлю. Можа, і рана, але ж зямля не можа заставацца без гаспадара. Калі той жа Мікалай Радаман на сённяшні дзень не з’яўляецца ўласнікам зямлі, якім, дарэчы, быў яго дзед, то гаспадаром у “Снове” ён павінен сябе адчуваць. Пры любым раскладзе.

**Сяргей КАВАЛЬЧУК.**




**ТЭМА ДНЯ**

# Абанкруцілі «Базіс»…

### Не вытрымаў канкурэнцыі?

Адкрытае акцыянернае таварыства «Базіс-Наваполацк» з’яўляецца адным з найстарэйшых дзяржаўных прадпрыемстваў у горадзе. Сваю гісторыю яно пачало яшчэ ў 1962 годзе. Як паведамляе сайт арганізацыі, «Базіс» уключае 12 харчовых і 5 прамысловых крам, базы, міні-рынкі, кафэ і іншыя аб’екты. Колькасць працуючых – больш за 1000 чалавек.

Праўда, зараз такая характарыстыка прадпрыемства не адпавядае рэчаіснасці.

Яшчэ год таму гэта былі звычайныя крамы з запоўненымі прылаўкамі і немалой наведвальнасцю. Перавагай гандлёвых кропак «Базіс» з’яўлялася крокавая даступнасць практычна ў кожным раёне горада. Жыхарам Наваполацка неабавязкова было ісці ў супермаркет, каб купіць пакет малака.

Але з часам набыць некаторыя прадукты ў дзяржаўных крамах стала праблематычна. А праз некалькі месяцаў на прылаўках і зусім засталіся толькі мінеральная вада, полацкае піва, хлеб, запалкі і соль. Сёння пакуль яшчэ не закрытыя аб’екты «Базіс» нагадваюць крамы з дакументальных фільмаў пра савецкі дэфіцыт: паліцы або пустыя, або асартымент для пакупнікоў зусім бедны.

Што адбылося з гандлёвай сеткай і чаму раптоўна зачыніліся амаль усе крамы?

Галоўнай прычынай кіраўніцтва лічыць канкурэнцыю з боку супермаркетаў.

– *Горад перанасычаны гандлёвымі прадпрыемствамі, асабліва харчовымі,* – тлумачыла дырэктар ААТ «Базіс» Надзея Кнырко восенню мінулага года ў адным з інтэрв’ю. – *У апошнія гады актыўна ажыццяўляюць сваю гандлёвую дзейнасць «Дыяніс», «Еўраопт», «Марцін» і іншыя.*

Усяму віной называлі і будаўніцтва гандлёвага цэнтра «Глобус», на які былі выдаткаваны немалыя сродкі, але з-за няправільных разлікаў новы аб’ект аказаўся стратным. Зараз ён таксама не працуе.

Яшчэ ў верасні 2016 года Надзея Кнырко распавядала пра наяўнасць праграмы па вывадзе прадпрыемства з крызісу. Сёння ж нерухомасць акцыянернага таварыства выстаўлена на аўкцыён.

Адразу пасля знікнення прадуктаў з прылаўкаў у горадзе з’явіліся чуткі, што зусім не з-за супермаркетаў у «Базіса» паўсталі эканамічныя праблемы. «Еўраопт», «Дыяніс» пачалі працаваць не ўчора, і ўсе гэтыя гады не замянялі дзяржаўнай арганізацыі.

У Наваполацку сталі гаварыць аб свядомым банкруцтве прадпрыемства.

### У адпачынак за свой кошт

Каб даведацца, якія перспектывы чакаюць «Базіс», адпраўляюся па крамах. Трэба сказаць, што ўзровень запалоханасці калектыву вельмі высокі. Прадаўцы ў прамым сэнсе проста маўчалі, калі я задаваў пытанні.

Здаецца, чаго тут баяцца: забралі ўжо не толькі мізэрную зарплату, але нават працу!

– *З 6 лютага на месяц мы сыходзім у адпачынак за свой кошт,* – унесла яснасць адна з прадаўцоў за дзень да закрыцця крамы. – *Павінны прапанаваць працу на іншых аб’ектах. На дзвярах крамы сказалі напісаць, што «зачынена часова».*

Але, як вядома, няма нічога больш пастаяннага, чым часовае. Вядома, што, напрыклад, гандлёвы цэнтр «Дзвіна» выстаўлены на аўкцыён за 4 мільёны 605 тысяч беларускіх рублёў. Усе астатнія аб’екты прадаюцца адным лотам. Пачатковы кошт – 10 мільёнаў 30 тысяч рублёў.

Выстаўленая на продаж маёмасць прадаецца разам з абсталяваннем і таварамі.

– *Прадпрыемства развалілі цалкам,* – сказаў «Народнай Волі» старшыня рэгіянальнай арганізацыі Незалежнага прафсаюза Наваполацка **Іван Святоха.** – *Абанкруцілі ўсё, што толькі можна было. Нерухомасць ідзе з малатка. У магазіны заходзіш – я не памятаю, калі такое было: пустыя паліцы. І гэта ж не першае прадпрыемства: была арганізацыя «Верасы», якая забяспечвала харчаваннем школы і дзіцячыя садкі. Таксама – банкрут.*

Паводле слоў прафсаюзнага дзеяча, перад тым як выставіць аб’екты на аўкцыён, у крамах быў праведзены капітальны рамонт.

– *Кіраўніцтва спасылаецца на гандлёвы цэнтр «Глобус»,* – тлумачыць Іван Зянонавіч. – *Маўляў, залезлі ў крэдыты і ўсе праблемы з-за гэтага. Так толькі «Глобус» і прадавайце! Складваецца ўражанне, што банкруцтва «Базіса» рыхтавалася загадзя. Магазіны размешчаны ў зручных месцах, пасля рамонту, і ў адзін момант усе становяцца праблемнымі?! Днямі заходзіў у «Дзвіну», работнікі кажуць, што заробак выплацілі, па 200–300 рублёў.*





Уважаемые покупатели!
С 02.02.2017 г. магазин временно
НЕ РАБОТАЕТ.



**БЕЗ КАМЕНТАРЫЯЎ**

Далейшым лёсам прадпрыемства «Народная Воля» вырашыла пацікавіцца ў дырэктара ААТ «Базіс-Наваполацк» **Надзеі Кнырко.** Але адказваць на пытанні Надзея Мікалаеўна не захацела. У прыёмнай гэта патлумачылі вялікай занятасцю, і знайсці некалькі хвілін у яе ніяк не атрымалася.

Хутчэй за ўсё, чыноўніцы з Наваполацка проста няма чаго сказаць. Ці яна ўтойвае ад грамадскасці надзвычай важную інфармацыю?

Падобную пазіцыю заняло і кіраўніцтва Наваполацкага выканаўчага камітэта. Можа, кампетэнтныя органы пацікавяцца, чаму гарадскія чыноўнікі пазбягаюць пытанняў пра далейшы лёс ААТ “Базіс” і яго калектыву?

**Раман ВАСЮКОВІЧ.**

Фота аўтара.

**МАСКВА–МІНСК**

## Набыло моц рашэнне Федэральнай службы бяспекі Расіі аб усталяванні пагранічных зон на тэрыторыі РФ, якая мяжуе з Беларуссю

У пагранслужбе ФСБ РФ сцвярджаюць, што беларускіх грамадзян новаўвядзенне не закране. «Для грамадзян Беларусі, якія перасякаюць мяжу з Расіяй, усё застанецца, як раней: пры сабе трэба мець толькі пашпарт, ніякіх дадатковых дакументаў не патрабуецца», – заявіў БелаПАН прадстаўнік пагранслужбы ФСБ. Рашэнне расійскага боку тычыцца грамадзян трэціх краін, якія едуць з Беларусі ў Расію, падкрэсліў ён.

У пагранслужбе ФСБ таксама адзначылі, што на мяжы з Беларуссю пакуль не будзе ніякіх пунктаў пропуску – ва ўсіх асоб, якія ўязджаюць, толькі будуць правярацца пашпарты. Пашпартная праверка будзе праводзіцца пры перасячэнні мяжы і ў цягніках.

Між тым прэзідэнт Беларусі назваў рашэнне ФСБ Расіі чыста палітычным выпадам. «*Яны ад каго мяжу сёння закрываюць? Што гэта за пагранічная зона ў 30 кіламетраў? Яны што, лепш абараняюць мяжу, чым мы? У тысячу разоў горш. І ў іх ёсць дзе абараняць мяжу. Гэта, я лічу, чыста палітычны выпад*», – заявіў Аляксандр Лукашэнка на сустрэчы з прадстаўнікамі грамадскасці і СМІ 3 лютага.

У ФСБ адным росчыркам пяра паставілі крыж на міжнародных дамоўленасцях, дадаў ён. Паводле слоў Лукашэнкі, дзеянні Расіі могуць выліцца ў сур’ёзны канфлікт – Беларусь у адказ прыме адэкватныя меры, якія будуць тычыцца эканомікі, мытнай сферы, «наогул кантролю мяжы».

Пры гэтым кіраўнік дзяржавы падкрэсліў: «*Але расіяне могуць быць упэўнены, што яны як прыязджалі ў Беларусь, так і будуць прыязджаць. Гэта я цвёрда гарантую. Яны* (ФСБ. – ***БелаПАН***), *можа, і хацелі б, каб мы прынялі дзеянні ў адказ і гэтым самым неяк нашых братоў рускіх, расіян абмяжоўвалі ў перамяшчэнні на гэтай мяжы. Але мы ніколі на гэта не пойдзем*».

**БелаПАН.**

**СЛОВА – ЗА ФЕМІДАЙ**

## На лаве падсудных і без бензапілы

Справа аб трагедыі ў ГЦ «Новая Еўропа», калі Уладзіслаў Казакевіч з бензапілой у руках напаў на наведвальнікаў цэнтра, пачне разглядацца судовай калегіяй Мінскага гарсуда 20 лютага. Маладога чалавека абвінавачваюць у забойстве жанчыны і падрыхтоўцы да нападу ў сталічнай ВНУ.

Пацярпелымі па крымінальнай справе былі прызнаны тры жанчыны, якія атрымалі траўмы падчас нападу, а таксама сваякі забітай работніцы гандлёвага цэнтра. Яшчэ ў снежні мінулага года Следчы камітэт паведамляў: абвінавачаны падчас нападу быў п’яны. Вечарам 8 кастрычніка 2016 года ён прыйшоў у ГЦ “Новая Еўропа” з бензапілой і сякерай-кувалдай. Спачатку ён паспрабаваў забіць адну з жанчын, але яна збегла. Тады другой жанчыне ён нанёс два ўдары пілой, а затым яшчэ некалькі – сякерай. Ад атрыманых траўм яна памерла на месцы. Затым ён параніў яшчэ дзвюх жанчын.

Следства таксама ўстанавіла, што хлопец рыхтаваўся здзейсніць напад у ВНУ 7 кастрычніка 2016 года. Будучы п’яным, ён зайшоў у вучэбны корпус і завёў бензапілу. Паводле інфармацыі СК, ён накіроўваўся ў лекцыйную аўдыторыю, дзе займаліся 178 студэнтаў. Але хлопец выпадкова закрануў рычаг тормазу, і завесці бензапілу зноў не ўдалося. Гэта вымусіла яго рэціравацца.

Згодна з заключэннем псіхолага-псіхіятрычнай экспертызы, непаўнагадовы ў перыяд інкрымінуемых яму дзеянняў мог у поўнай меры ўсведамляць значэнне сваіх учынкаў і кіраваць імі.

Судовае разбіральніцтва пройдзе ў адкрытай форме.

**Кірыл БУБНОЎ.**

## Яшчэ адзін тэрмін?..

*9 лютага ў Ленінскім раённым судзе Магілёва пачнецца чарговы суд над былым кіраўніком праваабарончай арганізацыі «Платформ Інавэйшн».*

**Андрэй Бандарэнка** – экс-кіраўнік праваабарончай арганізацыі, якая займалася маніторынгам месцаў зняволення. У 2014 годзе яго прызналі вінаватым у хуліганстве, злосным хуліганстве і асабліва злосным хуліганстве ў дачыненні да трох грамадзян і асудзілі на 3 гады калоніі ўзмоцненага рэжыму. Зараз ён адбывае пакаранне ў магілёўскай турме №4.

Бягучы тэрмін пакарання ў Бандарэнкі заканчваецца 31 сакавіка гэтага года. Аднак калі яго прызнаюць вінаватым па крымінальнай справе, якая заведзена супраць яго за злоснае непадпарадкаванне патрабаванням адміністрацыі папраўчай установы, ён можа атрымаць яшчэ да двух гадоў зняволення.

РЭГІЁН

# «Шукаю працу…»

*Карэспандэнт «Народнай Волі» наведаў Цэнтры занятасці ў Полацку і Наваполацку і паспрабаваў высветліць, як з іх дапамогай можна працаўладкавацца.*

Да пачатку працоўнага дня заходжу ў офіс навапалацкай Службы занятасці насельніцтва. Каля стэнда з адкрытымі вакансіямі – нікога. Чакаю прыходу беспрацоўных. Аншлагу не назіраецца.

У катэгорыі «праца з вышэйшай адукацыяй» патрабуюцца інжынер, менеджар, дызайнер, дырэктар. Зарплата ад 300 да 700 рублёў.

На 0,75 стаўкі патрэбны выхавальнік з заробкам 265 рублёў у яслі-сад №2.

Вырашаю адразу ж праверыць «свежасць» аб'яў. Так, на стэндзе напісана, што аўтапарку №6 ААТ «Віцебскаблаўтатранс» патрабуецца кіроўца аўтобуса з заробкам 500 рублёў. У аддзеле кадраў мяне просяць ператэлефанаваць праз гадзіну, каб удакладніць інфармацыю па дадзенай вакансіі.

Не губляючы часу, працягваю «працаўладкоўвацца». У спартыўную школу №1 патрабуецца дворнік. Аклад 265 рублёў.

– *Работнік патрэбны ў лагер «Ленінец», які знаходзіцца за Полацкам,* – патлумачылі ва ўстанове. – *Дабірацца да месца трэба самастойна.*

Ад горада да лагера 25–30 кіламетраў у адзін бок. Няцяжка падлічыць, што застанецца ад заробку, калі ездзіць на работу на сваім аўтамабілі або на грамадскім транспарце.

Зноў цікаўлюся вакансіяй кіроўцы ў аўтапарку. З працоўнай кніжкай мяне запрашаюць на наступны дзень для размовы.

Каля 9.30 кампанію каля стэнда з аб'явамі мне складае жанчына ў шэрым паліто з блакнотам у руках. Але на дыялог навапалачанка не вельмі настроеная, мабыць, сюды ёй даводзіцца хадзіць часта і беспаспяхова.

– *Хоць бы што-небудзь знайсці,* – адказвае яна на маё пытанне, якую работу шукае.

ААТ «Нафтазаводмантаж» прапануе адну з найбольш высокааплатных вакансій: машыністу гусенічнага крана абяцаюць плаціць у месяц 720 рублёў. У аддзеле кадраў, праўда, кажуць, што ўжо ўзялі чалавека, але могуць разгледзець і яшчэ адну кандыдатуру.

Вольным аказваецца месца маляра 4-га разраду ў навапалацкім філіяле «Віцебскэнерга». Каб зарабіць 290 рублёў, якасць работы кандыдата павінна адпавядаць еўраўзроўню, паведамілі на прадпрыемстве.

Запісваю яшчэ некалькі прапаноў ад гарадскіх арганізацый і адпраўляюся ў суседні Полацк. Па дарозе тэлефаную ў аддзелы кадраў. Гандлёваму прадпрыемству «Рэсттрэйд» патрабуецца грузчык на 420 рублёў. Прыемны жаночы голас тлумачыць, што на сённяшні дзень вакансія не актуальная, але ў бліжэйшы час супрацоўнікі могуць спатрэбіцца, таму лепш прыйсці і запоўніць анкету суіскальніка. На ўсе пытанні мне яшчэ раз раяць пакінуць анкету: відаць, занадта многія за апошні час хацелі зрабіць кар'еру грузчыка, і працадаўцу ёсць з каго выбіраць.

У полацкім упраўленні па працы, занятасці і сацыяльнай абароне каля манітораў з вакансіямі – два чалавекі. Мужчыны 40–45 гадоў запісваюць кантакты мясцовых арганізацый.

Леанід Аляксандравіч у пошуку ўжо чацвёрты месяц. Па прафесіі зваршчык, але гатовы працаваць і не па спецыяльнасці. Да гэтага ездзіў у Расію, але працадаўца падмануў і не заплаціў – звычайная гісторыя.

– *Калі глядзіш спіс, быццам бы месцы і ёсць,* – кажа жыхар Полацка. – *Мала, але ёсць. А калі тэлефануеш, то ўжо позна, то абяцаюць ператэлефанаваць, то ўзрост не падыходзіць.*

Як прызнаўся мой беспрацоўны суразмоўца, пытанне аб узроўні зарплаты для яго не на першым месцы. Пазбегнуць праблем з падатковай – задача нумар адзін на сёння.

На прадпрыемствы Полацка і раёна сёння патрэбны: слесары па рамонце аўтамабіляў з заробкам ад 320 да 450 рублёў, электразваршчык, швачкі 4–5-га разрадаў.

Шмат вакансій прадаўцоў у сельскія крамы недалёка ад горада.

– *Патрэбны прадаўцы 4–6-га разрадаў,* – сказалі мне ў Полацкім райпо. – *Транспарт працуе добра, таму з горада можна будзе дабірацца на аўтобусе. А ў вас выпадкова вадзіцельскіх правоў няма? Нам яшчэ патрэбны кіроўца-прадавец на аўтакраму. Яны нядрэнна атрымліваюць.*

Вось толькі назваць пэўную суму заробку ў арганізацыі не змаглі і параілі патэлефанаваць у бліжэйшыя дні. Прадаўцу, дарэчы, абяцаюць 265 рублёў.

У філіял «Мілк-агра» ААТ «Полацкі малочны камбінат» патрабуецца аператар машыннага даення. У аддзеле кадраў патлумачылі, што шукаюць работніц з мясцовых, але гатовы абмеркаваць і гарадскую кандыдатуру. Абяцаюць плаціць 450 рублёў і дапамагчы з жыллём без выгод.

**Раман ВАСЮКОВІЧ.**

ЖАНОЧЫ ПОГЛЯД

Марына КОКТЫШ

# Без кампрамісаў

Не першы раз Аляксандр Лукашэнка гаворыць пра тое, што сляды зніклых палітыкаў вядуць у Германію. Праўда, раней ён распавядаў, што ў Нямеччыне бачылі не **Віктара Ганчара**, а **Юрыя Захаранку**. Беларускае тэлебачанне нават называла нямецкае выданне, якое надрукавала фота экс-міністра ўнутраных спраў Беларусі, які жывы-здаровы разгульваў па Мюнстэры.

Удава генерала тады назвала гэтую інфармацыю *«бесцырымонным і бесчалавечным брудам»*. Яна разам з дочкамі не толькі звярнулася ў кампетэнтныя праваахоўныя органы Германіі, але і адшукала нямецкага журналіста, які пра гэта напісаў. Аказалася, фота, надрукаванае ў нямецкай газеце, – архіўнае, шмат гадоў таму зробленае ў Беларусі. А інфармацыю пра тое, што Захаранка нібыта жыве ў Нямеччыне, журналіст узяў не то з інтэрнэту, не то з нейкага сюжэта па БТ.

І пра гэтую гісторыю, дарэчы, ужо сказана-пераказана, каментарыі давалі нават высокія нямецкія чыноўнікі. Які сэнс сёння зноў вяртацца да гэтай байкі? Тым больш што дакладчык юрыдычнай камісіі Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы, аўтар нашумелага даклада «Зніклыя людзі Беларусі» **Хрыстас Пургурыдэс** ясна сказаў: «*Усе сляды забойцаў Захаранкі, Ганчара, Красоўскага і Завадскага знаходзяцца ў Беларусі...*»

Не так даўно на сувязь з журналістамі спрабаваў выйсці адзін з тых, хто быццам бы добра ведае, дзе трэба шукаць Захаранку, Красоўскага, Ганчара і Завадскага. Нібыта сам усё бачыў, прысутнічаў, гатовы распавесці, бо, маўляў, *"не магу больш маўчаць"*. Прозвішча гэтага чалавека, дарэчы, згадвалася ў прэсе – праз коску ў спісе тых, каго падазраюць у дачыненні да гвалтоўных знікненняў. Ужо некалькі гадоў гэты чалавек жыве ў Расіі. Баіцца за лёс сваіх блізкіх, якія засталіся ў Беларусі ў адным з абласных цэнтраў. Наўзамен на шчыры аповед пра тое, што было, былы салдат Паўлічэнкі запатрабаваў поўнай канспірацыі і гарантыі бяспекі. А праз пару дзён ад сустрэчы адмовіўся. Баіцца. І, здаецца, ціха вар'яцее, бо перакананы, што за ім да гэтага часу ідзе паляванне. Мяняе тэлефоны, здымныя кватэры, электронныя скрыні, паролі ад скайпа і старонак у сацыяльных сетках. 18 гадоў чалавек азіраецца і баіцца дыхаць, уяўляеце?

З іншага боку, маюць рацыю сваякі зніклых, якія кажуць: калі нават чалавек адкрыецца, дасць сур'ёзныя паказанні, што з імі рабіць? Куды іх несці? Следчым? Дык ім не хапае толькі палітычнага рашэння, каб дапытаць тых, хто цяпер у статусе недатыкальных, і завяршыць расследаванне. Тым больш справа Юрыя Захаранкі дагэтуль не прыпынена. Следчыя нейкія паперкі ў гэтую справу падшываюць, пэўныя аператыўна-пошукавыя мерапрыемствы праводзяць, хаця...

Удава **Дзмітрыя Завадскага** ў адным з інтэрв'ю распавядала пра хлопца, які служыў у ваеннай часці 3214 і не толькі меў доступ да архіва спецаперацый так званага "эскадрону смерці", але і сам удзельнічаў у адной з іх. Думаеце, следчыя тут жа кінуліся на пошукі гэтага чалавека? Як высветлілася, гэта не падстава, каб тэрмінова аднавіць расследаванне крымінальнай справы Дзмітрыя Завадскага, прыпыненае больш за 10 гадоў таму.

Былы спецназавец **Валерый Ігнатовіч** адбывае пажыццёвае пакаранне ў жодзінскай турме не толькі за выкраданне Дзмітрыя Завадскага. Яго прызналі вінаватым у здзяйсненні шэрагу іншых злачынстваў, у тым ліку забойстваў. Здавалася б, Ігнатовічу няма чаго губляць. І любы іншы на яго месцы, мабыць, пагадзіўся б на ўсё, каб пры такім багажы апынуцца на волі. Але Ігнатовіч, як вынікае, не захацеў узяць на сябе яшчэ адно забойства. Нават у абмен на абяцаную амністыю. Можа, таму, што на самай справе не ён забіваў Завадскага? Ці проста ведае, што пасля такога прызнання апынецца не на свабодзе, а на тым свеце?

Маці Віктара Ганчара Валянціна Адамаўна памерла ў 2005 годзе. Ёй было 78 гадоў. За пяць гадоў да сваёй смерці яна напісала ліст Лукашэнку: «*...калі ў вас ёсць дзеці і яны даражэй, чым жыццё, калі вы верыце ў Бога, не маўчыце! Дайце хоць маленькую надзею... Пашкадуйце маю сівізну, маё мацярынскае сэрца, не дайце мне памерці, не пабачыўшы сына. Не маўчыце, адгукніцеся!*»

Але не дачакалася ні сына, ні адказу.

Маці Анатоля Красоўскага Ксенія Сідараўна памерла ў 87 гадоў. Яна пахавала мужа і трох з пяці сваіх сыноў.

Маці Юрыя Захаранкі ўжо амаль 93. За апошнія 18 гадоў яна таксама напісала ўжо не адзін ліст Лукашэнку, звярталася амаль да ўсіх генеральных пракурораў і следчых. Пакуль жывая, Ульяна Рыгораўна будзе чакаць любых звестак пра сына.

Маці Дзмітрыя Завадскага зараз з усіх сіл змагаецца за сваё жыццё. Пра лёс сына ёй вядома не больш, чым усім нам. Вольга Рыгораўна ўжо стамілася слухаць, як выкручваюцца высокія чыноўнікі, калі ім задаюць пытанні аб гучных знікненнях. Шмат слоў і нічога па сутнасці.

Правільна кажа Анатоль Лябедзька: тэма гучных знікненняў – гэта пытанне, па якім не можа быць кампрамісу і даўнасці гадоў.

ДАСЛОЎНА

Васілій Жарко, віцэ-прэм'ер:

# «Дайсці да кожнага…»

*– Трэба дайсці ў 2017 годзе да кожнага жыхара краіны, памераць ціск, паслухаць, калі трэба, зрабіць кардыяграму, аналіз крыві. Трэба за гэты год правесці зрэз усяго насельніцтва і праводзіць назіранні не ад выпадку да выпадку, а рэгулярна, як гэта закладзена ва ўсіх пастановах Міністэрства аховы здароўя*

Гэта даслоўнае выказванне на выніковай калегіі Міністэрства аховы здароўя экс-міністра, а цяпер віцэ-прэм'ера **Васілія Жарко**. Яго словы прагучалі калі не як загад, дык як інструкцыя да дзеяння.

Выніковая калегія прайшла 25 студзеня, а 27-га ў Міністэрстве аховы здароўя нарэшце з'явіўся новы кіраўнік – **Валерый Малашка**. Ён, дарэчы, прысутнічаў на выніковай калегіі Міністэрства аховы здароўя як міністр працы і сацыяльнай абароны і сядзеў у прэзідыуме побач з Васіліем Жарко. То бок першыя даручэнні ўжо атрымаў.

МЕДДАВЕДКА

# Справа добраахвотная

Не сакрэт, што савецкі атавізм – дыспансерызацыя – вярнуўся ў наша жыццё даўно. Былі гады, калі Міністэрства аховы здароўя давала справаздачу, што дыспансерызацыю прайшлі 99% насельніцтва. Хаця, зразумела, не ўсе верылі такой статыстыцы. Але ў любым выпадку ў кожнага жыхара краіны з'явілася магчымасць (па сутнасці, па асабістым жаданні) прайсці абследаванне ў паліклініцы па месцы жыхарства: здаць аналізы, зрабіць кардыяграму і нават прайсці фібрагастраскапію – такі прафілактычны агляд таксама быў уключаны ў пералік даследаванняў пры дыспансерызацыі.

Але з гэтага года правілы праваздзення медаглядаў змяніліся. *«Новая інструкцыя Міністэрства аховы здароўя памяншае нагрузку на паліклініку, таму што прапрэджвае перыяды абследавання для рознага ўзросту. Для моладзі лік абследаванняў увогуле скарочаны»*, – тлумачыць галоўны ўрач сталічнай паліклінікі №14 **Людміла Краснічэнка**.

Цяпер дыспансерызацыю можна праходзіць толькі адзін раз у два гады, а не кожны год, як было раней. Штогадовай дыспансерызацыя засталася толькі для асоб з хранічнымі захворваннямі. У пацыентаў, старэйшых за 65 гадоў, перыядычнасць і аб'ём абследаванняў будзе вызначаць урач індывідуальна. У спецыяльнай пастанове Міністэрства аховы здароўя дакладна прапісана, якія аналізы і даследаванні павінен прайсці пацыент пры дыспансерызацыі і з якой перыядычнасцю. Што важна: вынікі дыспансерызацыі ўлічваюцца пры праходжанні розных медкамісій. Напрыклад, калі ў рамках дыспансерызацыі чалавек здаў аналіз крыві, мачы, зрабіў кардыяграму і ў той жа год яму трэба прайсці вадзіцельскую медкамісію, ён можа прад'явіць гэтыя вынікі. І калі ўлічыць, што медагляд кіроўцы аплачваюць, то ад дыспансерызацыі можа быць яшчэ і фінансавая выгада.

Дыспансерызацыя – справа добраахвотная, нагадвае Людміла Краснічэнка. Каб прайсці медагляд, чалавеку трэба звярнуцца да ўчастковага тэрапеўта або ў даўрачэбны кабінет у залежнасці ад таго, які парадак праходжання дыспансерызацыі ўсталяваны ў паліклініцы. Удакладніць гэта можна ў рэгістратуры.

– *Ёсць пашпарт участка, у які ўнесена ўсё насельніцтва, і для кожнага чалавека вызначаны час наведвання паліклінікі для праходжання ўсеагульнай дыспансерызацыі і для праходжання дыспансернага агляду, калі ён стаіць на ўліку па нейкім захворванні*, – тлумачыць Людміла Краснічэнка. – *Калі гэты перыяд надыходзіць, яго выклікаюць на прыём. Гэта пытанні ўчастковай медыцынскай сястры. Але і пацыент сам павінен сачыць за сваім здароўем.*

ДАРЭЧЫ

## На якія даследаванні можна разлічваць пры дыспансерызацыі?

| Медыцынскае ўмяшанне (абследаванне) | Умовы правядзення | |
|---|---|---|
| | узрост | |
| | 18–39 гадоў | 40 гадоў і больш |
| Электракардыяграфія | па медыцынскіх паказаннях | пацыентам ад 40 да 65 гадоў – 1 раз у 2 гады |
| Агульны аналіз крыві | па медыцынскіх паказаннях | пацыентам ад 40 да 65 гадоў – 1 раз у 2 гады |
| Агульны аналіз мачы | па медыцынскіх паказаннях | па медыцынскіх паказаннях |
| Медыцынскі агляд урача-акушэра-гінеколага (назіральны кабінет) | 1 раз у 3 гады | пацыентам ад 40 да 65 гадоў – 1 раз у 3 гады |
| Пальцавае даследаванне прамой кішкі і прастаты | па медыцынскіх паказаннях | 1 раз у 2 гады |
| Правядзенне тэсту на схаваную кроў | па медыцынскіх паказаннях | пацыентам ад 40 да 65 гадоў – 1 раз у 2 гады |
| Вызначэнне глюкозы ў крыві | па медыцынскіх паказаннях | пацыентам ад 40 да 65 гадоў – 1 раз у 2 гады |
| Ацэнка рызыкі сардэчна-сасудзістых захворванняў па табліцы SCORE | 1 раз у 5 гадоў | 1 раз у 5 гадоў |
| Флюараграфія | абавязковаму кантынгенту і тым, у каго існуе пагроза захворвання на туберкулёз органаў дыхання, – штогадова; іншым катэгорыям пацыентаў – 1 раз у 3 гады | абавязковаму кантынгенту і тым, у каго існуе пагроза захворвання на туберкулёз органаў дыхання, – штогадова; іншым катэгорыям пацыентаў – 1 раз у 2 гады |
| Афтальматанаметрыя | пацыентам ад 35 да 39 гадоў, крэўныя сваякі якіх хварэюць на глаўкому, – штогод | пацыентам ад 40 гадоў, крэўныя сваякі якіх хварэюць на глаўкому, – штогод; іншым пацыентам – 1 раз у 3 гады |

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

АГУЛЬНЫ ПЛАН

# Музыка і Слова

У Вялікай канцэртнай зале Белдзяржфілармоніі распачынаецца ўнікальны шматгранны музычны і культуралагічны праект, які будзе доўжыцца ўвесь 2017 год. Прысвечаны ён 500-годдзю беларускай Біблії і кнігадрукавання, а таксама 500-годдзю нямецкай і еўрапейскай Рэфармацыі.

Першай маштабнай падзеяй будзе канцэртная праграма – прысвячэнне Марціну Лютэру і Францішку Скарыну «На пачатку было Слова» 12 лютага, яе рыхтуюць Дзяржаўны камерны хор, ансамбль салістаў «Вытокі» і камерны аркестр Capella academia. Прагучыць музыка Рэнесансу і ранняга барока, некаторыя творы – упершыню. Канцэрт-прысвячэнне будзе суправаджацца не толькі змястоўным канферансам, але і навуковым каментарыем на тэму юбілеяў, публіка таксама ўпершыню пачуе многія цікавыя факты з гісторыі названых герояў.

Аўтар усяго праекта і дырыжор названага канцэрта – лаўрэат міжнародных конкурсаў Аляксей Фралоў. Ён даўно захоплены вывучэннем старажытнай беларускай музыкі, краязнаўствам. З'яўляецца мастацкім кіраўніком фестывалю «Год Агінскага» ў Залессі. Дарэчы, перад пачаткам вайны ў Сірыі яму давялося працаваць у Нацыянальным сімфанічным аркестры гэтай краіны і выкладчыкам у Акадэміі музыкі і тэатра ў Дамаску.

У канцэрце Белдзяржфілармоніі возьмуць удзел вядучыя салісты беларускай оперы, а таксама адзін з лепшых піяністаў Беларусі Юрый Бліноў.

**Алена МАЛОЧКА.**

ГУЧНАЯ СПРАВА

# Абвінавачанне: бацьку – 9 гадоў, сыну – 3

*У судзе Маладзечанскага раёна падыходзіць да канца гучны працэс аб махлярстве і падбухторванні да дачы хабару. Прысуду чакаюць Георгій Міхалевіч – былы загадчык інтэрната ААТ «Будаўнік 169» і ягоны сын Артур.*

Георгію Міхалевічу, які, дарэчы, не прызнае сваю віну, прад'яўлена 34 эпізоды злачыннай дзейнасці. Следствам устаноўлена, што ён браў узнагароды ад грамадзян за спрыяльнае вырашэнне пытання аб усяленні ў інтэрнат. Сярэдні памер хабару – 1000 долараў ЗША ў валюце або рублях, а агульная лічба – 520 мільёнаў недэнамінаваных рублёў, што складае прыблізна каля 30 тысяч долараў.

Інтэрнат ААТ "Будаўнік 169" быў пабудаваны ў 1977 годзе, сёння будынак выглядае, мякка кажучы, непрэзентабельна, але размешчаны ў цэнтры горада.

– *Для нас затрыманне Міхалевіча было шокам*, – кажа загадчыца інтэрната Ганна Асокіна. – *Адна справа, калі б нейкія чуткі хадзілі, а так – усё знянацку, прыйшлі і арыштавалі. У судзе прагучала, што ён браў хабар у перыяд з 2012-га па 2106 год, некаторыя з тых, хто перадаваў грошы, нават не ведалі, кім ён працуе. А ўладкаваўся Міхалевіч у наш інтэрнат толькі восенню 2015 года, дзе раней працаваў, не ведаю... Вёў сябе сціпла, праўда, у мінулым годзе памяняў гарадскую кватэру на дом у Лебедзева – гэта вёска пад Маладзечна, дзе ёсць элітная забудова. Але які дом набыў Міхалевіч, не ведаю.*

***– А як работнік ён быў талковы?***

– *Па сутнасці, ён толькі год прапрацаваў. Дакументацыю пакінуў у такім стане, аж плакаць хочацца, дагэтуль разграбаем.*

Сын Міхалевіча працаваў у гэтым жа інтэрнаце слесарам-рамонтнікам, жыў разам з бацькамі. Паводле версіі следства, ён дапамагаў бацьку ў яго махінацыях і быў затрыманы падчас судовых слуханняў.

Пракурор папрасіў для Георгія Міхалевіча пакаранне ў выглядзе 9 гадоў пазбаўлення волі, для ягонага сына – 3 гады калоніі.

Прысуд будзе вынесены ў бліжэйшыя дні.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ЗА ПРАХАДНОЙ

# На «Нафтане» магчымы скарачэнні

*Эканамічныя праблемы выкліканы абмежаваннем нафтавых паставак з Расіі.*

– *Сітуацыя з пастаўкамі складаная,* – сказаў «Народнай Волі» старшыня Незалежнага прафсаюза на ААТ «Нафтан» Генадзь Варона. – *Завод цалкам не загружаны, магчыма, што пачатак года адпрацуем са стратамі. Але вынікі пакуль не падводзілі. У гэтай сітуацыі нам удалося заключыць новы калектыўны дагавор, які захоўвае ранейшыя сацыяльныя гарантыі для рабочых. Гэта вялікі плюс.*

Паводле слоў прафсаюзнага дзеяча, з-за нестабільнага фінансавага становішча на заводзе ідзе аптымізацыя: скарачэнне супрацоўнікаў не выключаецца.

1 лютага на прадпрыемстве ўступіў у сілу новы калектыўны дагавор. Над ім таксама працавалі актывісты Незалежнага прафсаюза. Дакумент будзе дзейнічаць на працягу трох гадоў.

**Раман ВАСІЛЬЕЎ.**



РЭГІСТРАТУРА

# Беларусы сталі менш скардзіцца на медыкаў

8687 – столькі зваротаў ад грамадзян паступіла ў мінулым годзе ў Міністэрства аховы здароўя. У асноўным беларусы скардзіліся на працу медыкаў. 83% гэтых зваротаў – прэтэнзіі да ўрачоў на несвоечасова ці няякасна аказаную медыцынскую дапамогу. 17% – падзякі лекарам. «*Парушэнняў этыкі ў прычынах скаргаў – 50%, вось і ўся размова*», – заўважыў першы намеснік міністра аховы здароўя **Дзмітрый Піневіч.**

Цікава, што ў параўнанні з 2015 годам на працу медыкаў беларусы сталі скардзіцца менш. Дзмітрый Піневіч прыводзіць такія лічбы: «*У 2016 годзе намецілася станоўчая дынаміка зніжэння пісьмовых зваротаў у Міністэрства аховы здароўя – 4483 (менш на 2%). Праз інтэрнэт-прыёмную звярнулася 3454 чалавек (менш на 14%), з вышэйстаячых арганізацый – 750 (менш на 15%)*».

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

РЕЗОНАНС

# Без срока давности

В двух номерах «Народной Воли» (31 января и 3 февраля 2017 г.) прочитал фундаментальные исследования кандидата исторических наук Игоря Кузнецова под названием «Большевистский террор». Впечатляет, ужасает, заставляет что-то сделать. Массовый геноцид советской власти против своего народа нельзя простить и забыть. У таких дичайших преступлений не должно быть срока давности.

Не вызывает сомнения тот факт, что общество должно узнать и как можно скорее правду о злодеяниях большевистского режима. Для этого надо открыть архивы ОГПУ-НКВД-МГБ-КГБ. Чтя память своих предков, мы должны составить книги памяти жертв, а также их палачей и пособников-доносчиков. В этой связи я поддерживаю инициативу Игоря Кузнецова и его коллег объявить 2017 год Годом восстановления памяти о «большом терроре».

Как известно, наша республика пострадала от «большевистских чисток» больше других. Согласно официальным данным, в 1920–1940-е годы в БССР было репрессировано более 600 тысяч человек (по данным независимых исследователей – более полутора миллионов). Между тем в Беларуси до сих пор живет «дело Ленина–Сталина–Дзержинского». Во всяком случае организаторы и вдохновители большевистского террора еще взирают на нас со своих постаментов. Не пора ли объявить об окончании эпохи этих злодеев и дать соответствующую оценку их деяниям?

Я согласен с Игорем Кузнецовым в том, что мы можем очиститься от большевистской скверны и принять на себя ответственность за наше прошлое. Без этого у нас, граждан страны, «не будет никакой национальной консолидации и никакого возрождения».

**Михаил ПАСТУХОВ,**
**доктор юридических наук, профессор.**

ЖАХ!

# «Дзіцятка нарадзілася ў кашулі…»

*47-гадовая жыхарка Магілёва падазраецца ў спробе забойства сваёй дзевяцімесячнай унучкі.*

Здарэнне адбылося днём 31 студзеня. Выпадковыя мінакі звярнулі ўвагу на тое, што пад вокнамі аднаго са шматпавярховых дамоў у гурбе снегу ляжыць зусім малое дзіця. На месца тэрмінова выехала машына "хуткай дапамогі", сюды ж была выклікана і міліцыя.

Пацярпелае дзіця даставілі ў Магілёўскую абласную дзіцячую бальніцу.

Вось што расказаў "Народнай Волі" загадчык траўматолага-артапедычнага аддзялення, заслужаны ўрач Беларусі **Міхаіл Міховіч.**

– *На вялікае шчасце, дзяўчынка пазбегла значных траўмаў. Нягледзячы на падзенне са значнай вышыні* (следчыя мяркуюць, што дзяўчынка выпала з вышыні пятага паверха. – **Аўт.**), *яе здароўю нічога не пагражала ад самага першага дня знаходжання ў бальніцы. Спачатку дзяўчынка была змешчана ў рэанімацыю, але зусім хутка яе перавялі ў наша аддзяленне. Правялі абследаванне, якое не выявіла ніводнага пералому. Адзінае, што дыягнаставалі, – гэта паверхневыя пашкоджанні, невялічкія сінячкі. Зараз рыхтуем яе да выпіскі. Гэта шчасце, што ўсё абышлося. Думаю, што сур'ёзных траўм і пераломаў удалося пазбегнуць дзякуючы таму, што дзяўчынка была загорнута ў коўдру, да таго ж упала яна ў вялікі сумёт. Можна сказаць, дзіцятка нарадзілася ў кашулі.*

Акалічнасці здарэння зараз устанаўліваюць следчыя. Афіцыйны прадстаўнік Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь па Магілёўскай вобласці Аксана Салянюк у размове з карэспандэнтам "Народнай Волі" адзначыла:

– Пры правядзенні праверкі ў дадзенай кватэры была знойдзена бабуля дзяўчынкі, 1969 года нараджэння, у стане алкагольнага ап'янення, яна затрымана па падазрэнні ў здзяйсненні злачынства. У дачыненні да яе распачата крымінальная справа па прыкметах складу злачынства, прадугледжанага ч.1 арт.14, п.2 ч.2 арт.139 (замах на забойства заведама малалетняга).

**– Як паводзіць сябе падазроная? Ці наўмысна яна пайшла на гэты ўчынак?**

– Падазроная ў здзяйсненні злачынства знаходзіцца ў стане шоку. Яна ніяк не можа патлумачыць матывы свайго ўчынку. Складана сказаць, выпадкова гэта было зроблена ці наўмысна. З затрыманай працуюць следчыя, якія разбіраюцца ў сітуацыі.

**– Дзе знаходзіцца сама падазроная?**

– У дачыненні да яе абрана мера ўтрымання – заключэнне пад варту.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# Такое нельга даравацьǃ

**Другі месяц 54-гадовы інвалід II групы Ігар Рылькоў дамагаецца ўзбуджэння крымінальнай справы ў дачыненні да міліцыянераў, якія затрымалі яго.**

*«Народная Воля» пісала пра гэты абуральны выпадак. Летам мінулага года мінчанін Ігар Рылькоў, будучы абсалютна цвярозым, быў затрыманы супрацоўнікамі міліцыі Наталляй Вярбіцкай (1991 г.нар.) і Уладзіславам Ісаковічам (1995 г. нар.). Ахоўнікаў правапарадку збянтэжыла яго няўпэўненая хада. Тлумачэнні інваліда, што ён так ходзіць з-за хваробы, ні да чаго не прывялі: Рылькова адправілі ў спецпрыёмнік-размеркавальнік на Акрэсціна, дзе ён чакаў суда, паводле рашэння якога аказаўся вінаватым з усіх бакоў. За «нецэнзурную лаянку ў грамадскім месцы» і «непадпарадкаванне законным патрабаванням супрацоўнікаў міліцыі» яго аштрафавалі на 315 рублёў.*

*Гэтая сума перавышае месячную пенсію інваліда, таму папаўняць дзяржаўную казну Рылькоў не спяшаецца – штрафы не аплачаны ім да гэтага часу. Ігар стаў дамагацца справядлівасці ў міліцэйскіх і пракурорскіх кабінетах. Праўда, на сваім прыкладзе пераканаўся, што сістэма МУС у нашай краіне «сваіх не здае». Вось што распавёў пра свае пакуты **Ігар Рылькоў**.*

– Пачну з таго, што сам факт затрымання я лічу незаконным. Супрацоўнікі МУС Вярбіцкая і Ісаковіч парушылі артыкулы 22, 24, 26, ч.11 артыкула 28 Закона «Аб органах унутраных спраў Рэспублікі Беларусь»: не маючы законных падстаў, ужылі супраць мяне, інваліда другой групы, катаванні (ужылі грубую фізічную сілу і выкарысталі спецсродкі – кайданкі). А гэта строга забаронена законам. Пасля гэтага мяне змясцілі ў Цэнтр ізаляцыі правапарушальнікаў, пазбавіўшы волі на доўгі прамежак часу і ўтаіўшы ад начальніка ЦІП, што я інвалід.

Фактычна мяне незаконна пазбавілі волі з-за міліцэйскай памылкі. Грамадскі парадак я не парушаў, міліцыянерам проста падалося, што я нецвярозы. Са спецпрыёмніка-размеркавальніка мяне павезлі ў суд, але перад адпраўкай мне вярнулі асабістыя рэчы – грабянец, рэмень і гадзіннік. Пасведчанне інваліда, якое я даў міліцыянерам пасля затрымання, мне не вярнулі. Але даказаць гэта я не магу ўжо паўгода.

**– Чаму?**

– Па сутнасці, з мяне робяць ідыёта. На імя кіраўніцтва Цэнтра ізаляцыі правапарушальнікаў я падаў некалькі заяў з просьбай вярнуць мне пасведчанне інваліда. Спачатку там адмаўлялі сам факт, што гэты дакумент у мяне быў з сабой. Потым, праўда, нечакана "ўспомнілі", што пасведчанне мне вярнулі разам з астатнімі асабістымі рэчамі. Аб гэтым у афіцыйным лісце напрыканцы снежня 2016 года мне паведаміў начальнік Цэнтра ізаляцыі правапарушальнікаў І.Ю.Сакалоўскі. Адначасова ён паведаміў наступнае (цытую): «*Адсутнасць пры грамадзяніне дакументаў, якія сведчаць пра яго асобу, для органаў унутраных спраў Рэспублікі Беларусь не з'яўляецца перашкодай для выяўлення яго асобы*».

Ідэнтычны адказ я атрымаў ад начальніка Ленінскага РУУС Мінска М.А.Свірыда.

Уся соль у тым, што мне так і не паказалі пратакол, дзе стаяў бы мой подпіс, які пацвярджаў бы, што мне вярнулі пасведчанне інваліда.

Чаму я звяртаю ўвагу на гэты факт? Хутчэй за ўсё, маё пасведчанне было згублена міліцыянерамі, якія праводзілі затрыманне. А любы падобны дакумент пранумараваны. Вось зараз імкнуся дабіцца ад праваахоўнікаў інфармацыі пра тое, ці захаваўся ў іх нумар пасведчання, якое нібыта было вернута мне. Пакуль безвынікова.

**– Вы спрабавалі дамагчыся адмены судовага рашэння з дапамогай адваката. Атрымалася?**

– Атрымалася пераканацца ў тым, што бясплатная юрыдычная дапамога для інвалідаў у нашай краіне – казкі на карысць бедных. Так, маё маёмаснае становішча, роўна як і ў тысяч інвалідаў у Беларусі, далёкае ад ідэальнага. Таму я быў вымушаны звярнуцца з лістом у Міністэрства юстыцыі, у якім напісаў, што Беларусь не так даўно падпісала Канвенцыю аб правах інвалідаў і ўзяла на сябе абавязацельства ў тым ліку і ў галіне прадастаўлення інвалідам права на доступ да юрыдычнай дапамогі. А паколькі аплаціць паслугі адваката, адзін працоўны дзень якога каштуе амаль як мая месячная пенсія, я не магу, дык прашу прадаставіць мне адваката бясплатна. Я ж не юрыст і прафесійна абараніць свае парушаныя правы не ў стане.

**– Што адказалі ў Міністэрстве юстыцыі?**

– Мой зварот спачатку быў накіраваны ў Мінскую гарадскую калегію адвакатаў, а адтуль – у адвакацкае бюро «Сфера права». Уся дапамога гэтай арганізацыі звялася да таго, што з дакументамі па маіх адміністрацыйных правапарушэннях азнаёміўся Павел Шамко, які паведаміў, што тэрміны падачы скаргі на рашэнне суда выйшлі праз 10 дзён пасля яго вынясення. Пры гэтым ён нават не выпатрабаваў з суда матэрыялы, каб упэўніцца ў законнасці іх складання, пра што я пісаў у заяве ў Міністэрства юстыцыі.

Ніхто не стаў паглыбляцца ў сутнасць справы, ніхто не стаў прадпрымаць ніякіх дзеянняў, каб прыцягнуць да адказнасці міліцыянераў, якія мяне затрымалі. Прычына зразумелая: калі прызнаць дзеянні міліцыянераў незаконнымі, то, па-першае, трэба пакараць іх, па-другое, прызнаць незаконным маё ўтрыманне на Акрэсціна, па-трэцяе, пакараць суддзю, якая вынесла вердыкт на падставе незаконнага затрымання.

Я самастойна звярнуўся ў праваабарончы цэнтр "Прававая дапамога насельніцтву». Юрысты гэтай арганізацыі дапамаглі скласці скаргу ў пракуратуру горада Мінска аб вынясенні пратэсту ў Мінскі гарадскі суд на рашэнні суда Ленінскага раёна, якія я лічу незаконнымі. І адтуль праз некалькі тыдняў прыйшоў адказ за подпісам начальніка аддзела па наглядзе за выкананнем заканадаўства і прававых актаў Д.А.Шапавалава. Адказ, прама скажу, нечаканы: пракуратура ўгледзела парушэнні заканадаўства. Даслоўна гэта гучыць так: «*У сувязі з аднабаковасцю, непаўнатой і неаб'ектыўнасцю даследавання акалічнасцяў адміністрацыйнага правапарушэння ў Мінскі гарадскі суд вынесены пратэст*». Зараз чакаю адказу адтуль.

Юрысты праваабарончага цэнтра «Прававая дапамога насельніцтву» дапамаглі скласці заяву ў Следчы камітэт Ленінскага раёна г.Мінска аб узбуджэнні крымінальнай справы ў дачыненні да супрацоўнікаў міліцыі Вярбіцкай і Ісаковіча за незаконнае пазбаўленне волі, за заведама незаконнае затрыманне і перавышэнне ўлады – паводле трох артыкулаў Крымінальнага кодэкса. Там месяц гэта «расследавалі» і адмовілі ва ўзбуджэнні крымінальнай справы. Дарэчы, мне толькі праз тры тыдні далі матэрыялы для азнаямлення. Следчы то заняты, то ў адпачынку…

**Павел ГРАМЫКА.**

КАМЕНТАРЫЙ

# Супрацоўнікі Следчага камітэта паставіліся да праверкі павярхоўна і няўважліва

*Сітуацыю са справай Ігара Рылькова аналізуе **Алег Волчак**, кіраўнік праваабарончага цэнтра "Прававая дапамога насельніцтву" (зарэгістраваны ва Украіне):*

– 25 студзеня я разам з Ігарам і яго мамай прыйшоў у Следчы камітэт, каб азнаёміцца з матэрыяламі праверкі. Але нам у чарговы раз адмовілі. Намеснік начальніка Следчага камітэта Чуй сказаў, што следчага няма на месцы, а толькі ён можа прадаставіць матэрыялы праверкі. Я папрасіў указаць норму закона, згодна з якой пацярпелыя могуць азнаёміцца з матэрыяламі праверкі толькі ў прысутнасці следчага, які праводзіў разбіральніцтва. Справа ў тым, што ў законе такой нормы няма, – таму пытанне засталося без адказу.

Толькі па нашым патрабаванні Рылькову выдалі пастанову аб адмове ва ўзбуджэнні крымінальнай справы. Хаця павінны былі гэта зрабіць праз суткі пасля прыняцця гэтага рашэння.

Пра тое, што супрацоўнікі Следчага камітэта паставіліся да праверкі павярхоўна і няўважліва, сведчыць хаця б такі факт: па матэрыялах праверкі Рылькову адказваў «лейтэнант юстыцыі П.А.Капіца». Гэта было напісана на пачатку дакумента, а ў канцы, на трэцім аркушы, ён раптам стаў «старшым лейтэнантам» – вось такое «павышэнне па службе». Я ўжо не кажу пра мноства нестыковак, якія ёсць у справе. Не кажу пра тое, што іншых сведак здарэння, акрамя міліцыянераў, якія затрымлівалі Рылькова, няма, і галаслоўныя паказанні ахоўнікаў правапарадку прымаюцца як ісціна ў апошняй інстанцыі. Ніхто ў Следчым камітэце не стаў разбірацца ў гэтай службовай справе. Ці не захацеў?

Выносячы пратэст, пракуратура горада Мінска невыпадкова звярнула ўвагу на аднабаковасць, непаўнату і неаб'ектыўнасць даследавання акалічнасцяў інцыдэнту. Падаецца справядлівым і лагічным, што Следчы камітэт павінен узбудзіць крымінальную справу і прынцыпова падысці да кожнага факта. Але…

У любым выпадку Ігар Рылькоў будзе абскарджваць рашэнне следчага і патрабаваць аднаўлення справядлівасці ў дачыненні да сябе.

**P.S.** *Ігар Рылькоў звярнуўся да міністра юстыцыі з просьбай, каб той выступіў з прапановай перад Саветам міністраў аб стварэнні ў Беларусі муніцыпальных адвакацкіх службаў, якія аказвалі б бясплатную прававую дапамогу інвалідам у судах па грамадзянскіх і адміністрацыйных справах. Такія цэнтры працуюць у многіх краінах свету.*

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

# Мінскія размовы з Міколам Рабчуком

Сустрэчы-дыскусіі ў мінскім "Прэс-клубе" робяцца добрай традыцыяй. Днямі тут адбыўся "круглы стол" з нагоды прыезду ў Мінск вядомага ўкраінскага інтэлектуала, літаратара і палітолага **Міколы Рабчука**, працы якога ("Патрэба слова", "Ад Маларосіі да Украіны: парадоксы запозненага нацыятварэння", "Дзве Украіны: рэальныя межы і віртуальныя гульні", "Сад Метэрніха", "Посткаланіяльны сіндром. Назіранні", "Ад хаосу да "стабільнасці": хроніка аўтарытарнай кансалідацыі" і інш.) шырока вядомыя не толькі на радзіме аўтара, але і па-за яе межамі.

Вядучы "круглага стала" ў "Прэс-клубе" беларускі пісьменнік, кандыдат філасофскіх навук **Ігар Бабкоў**, перш чым даць слова ўкраінскаму госцю, сфармуляваў асноўную тэму дыскусіі: наколькі правамернай у святле падзей апошніх гадоў у сучаснай Еўропе выглядае арыентацыя на "традыцыйныя еўрапейскія каштоўнасці", ці не адбылася незваротная дэфармацыя гэтых каштоўнасцяў, ці не ўзнікла ва Украіне ўсеагульнае расчараванне ў сувязі з тым, што яе "вяртанне ў Еўропу" ідзе шляхам, поўным суб'ектыўных і аб'ектыўных перашкод? Урэшце, які шлях для Беларусі можа акрэсліць Мікола Рабчук, як бы гледзячы "збоку"?

Узяўшы слова, госць з Украіны адразу зазначыў, што ён па-ранейшаму не бачыць крызісу саміх каштоўнасцяў – такіх, як прававая дзяржава, вольны рынак, правы асобы на ўласнасць ці свабода распаўсюджвання інфармацыі. Праблема мноства еўрапейскіх палітыкаў апошніх пакаленняў, на думку Міколы Рабчука, палягае якраз у тым, што яны непаслядоўныя ў падтрыманні гэтых каштоўнасцяў. Вольны рынак, напрыклад, падразумявае свабоду перамяшчэння капіталаў і працоўнай сілы, а ў сапраўднасці некаторыя краіны дамагліся таго, што капіталы перамяшчаюцца збольшага ў адным кірунку – з трэцяга свету ў так званы першы, да якога гэтыя краіны самі належаць. Палітыка мытных тарыфаў, рознага кшталту квот ажыццяўляецца толькі дзеля таго, каб не адбылося рэзкага падзення даходаў тых, хто прывык жыць заможна. Пра свабодны рух працоўнай сілы можна па-ранейшаму гаварыць толькі з вялікай доляй іроніі, бо непарушна стаяць шмат якія межы, існуюць візавыя бар'еры, абмежаванні на працаўладкаванне ў краінах "першага свету" і г.д. Паняцце прававой дзяржавы ў сувязі з імкненнем уладных структур да розных прэферэнцый і неабмежаванага спажывання грамадскіх сродкаў таксама ў пэўнай ступені трансфармуецца. Крыху больш аптымістычнай выглядае хіба што сітуацыя са свабодай распаўсюджвання інфармацыі: тут абмежаванні датычаць у асноўным тых дзяржаў, у якіх адсутнічае рэальная выбарнасць улады, а інтарэсы асобы падпарадкаваны інтарэсам бюракратыі. Разам з тым, зазначыў госць "круглага стала", усе гэтыя дэфармацыі не разбураюць саміх каштоўнасцяў, якія, на яго погляд, застаюцца непахісныя.

З падачы вядучага гутарка плаўна перайшла ў абмеркаванне культурна-моўных праблем, цесна звязаных з пытаннем сённяшняй самаідэнтыфікацыі ўкраінцаў і беларусаў. Мікола Рабчук адзначыў, што вялікая частка рускамоўных украінцаў сёння прыняла ўкраінскую дзяржаву як сваю. Вынікі сацыялагічных апытанняў таксама сведчаць пра тое, што колькасць тых, хто карыстаецца ўкраінскай мовай, ужо істотна перавышае колькасць этнічных украінцаў, што жывуць ва Украіне. Рускамоўныя бацькі вельмі часта ахвотна аддаюць сваіх дзяцей у школы з украінскай мовай навучання ("нам ужо цяжка вывучыць мову, а дзецям гэта трэба"), пераважна на ўкраінскай мове працуюць самыя прэстыжныя ўніверсітэты. Разам з тым дыскусія пра дзяржаўнае двухмоўе не-не ды ўспыхвае. "Зразумейце мяне правільна, – кажа Рабчук, – я як чалавек ліберальных поглядаў лічу, што права моўнага выбару ў нашай, а напэўна, і беларускай, сітуацыі належыць індывіду: гэта неад'емнае права чалавека. Калі я, бацька школьніка, пакупнік у краме, кліент банка, глядач імпрэзы, наведнік дзяржаўнай установы і г. д., хачу, каб тыя, каму я нясу свае грошы, давяраю выхаванне дзіцяці, плачу падаткі, мне адказвалі – вусна ці пісьмова – на той мове, на якой я да іх звяртаюся, я маю на гэта права: мала таго, прыярытэт у правах належыць менавіта мне як індывіду! Калі мне рускамоўныя сябры кажуць, маўляў, давайце ўвядзём дзяржаўнае двухмоўе, я ім адказваю: "Давайце! Дзеля гэтага вам усяго толькі трэба вывучыць украінскую – і ўсё атрымаецца!"

У размове за "круглым сталом" брала ўдзел пісьменніца, кіраўнік Таварыства ўкраінскай літаратуры пры Саюзе беларускіх пісьменнікаў **Наталка Бабіна**. Я даўно назіраю за яе публічнымі выступленнямі і з нядаўняга часу пачаў заўважаць у іх пэўныя, скажам так, нюансы. Калі раней яна дэкларавала, што асноўнай мэтай сваёй дзейнасці бачыць стымуляванне з беларускага боку беларуска-ўкраінскіх узаемаперакладаў і адпаведных кантактаў, то цяпер (пра гэта пэўным чынам сведчаць і апошнія выпускі рэдагаванага ёй альманаха "Справа") занялася досыць гарачым адстойваннем двух наступных тэзісаў: што Брэстчына і значная частка астатняга Палесся заселена ўкраінцамі, да якіх яна таксама сябе адносіць, і што ў сённяшняй Беларусі (не толькі на Палессі) у беларускай мовы няма ніякіх сур'ёзных перспектыў. Першы тэзіс яна абгрунтоўвае безапеляцыйным сцвярджэннем, што палескія гаворкі – украінскія (хоць і беларускія, і замежныя вучоныя даўно вызначылі гэтую групу гаворак як "пераходную, беларуска-ўкраінскую", ці "ўкраінска-беларускую", і няма даследаванняў, якія сур'ёзна пярэчылі б такому вызначэнню). Другі тэзіс Наталкі Бабінай фармулюецца не адкрыта, а як бы ўводзіцца ў падсвядомасць: беларус сёння павінен выбіраць для сябе або ўкраінскую, або рускую мову (у альманаху "Справа" колькасць рускамоўных тэкстаў, здаецца, павялічваецца з кожным выпускам). Напэўна, шаноўная Наталка хацела пачуць выразную падтрымку для сябе з вуснаў Міколы Рабчука, але не пачула. Украінскі госць падкрэсліў, што яму добра вядомая складаная сітуацыя з беларускай мовай у нашай краіне, але "беларусы – як тыя партызаны: ледзьве недзе з'явіцца спрыяльная глеба, яны адразу ж хапаюцца за гэтую мажлівасць. І наогул, у беларусаў сёння ёсць тое, чаго мы, украінцы, не маем і чаму па-добраму зайздросцім: напрыклад, у нас няма часопіса гуманістычнай тэматыкі такога ўзроўню, як у вас ARCHE, або настолькі цікавых сучасных паэтаў, як ваш **Андрэй Хадановіч** ды іншыя…" Дарэчы, Хадановіч таксама ўзяў удзел у дыскусіі за "круглым сталом", гэтаксама як вядомы кінарэжысёр **Андрэй Кудзіненка**. Назіранні, якімі яны падзяліліся з прысутнымі, істотна ўзбагацілі палітру выказванняў і ажывілі агульную атмасферу гэтай цікавай сустрэчы.

**Лявон БАРШЧЭЎСКІ.**

ШЧЫРАЯ РАЗМОВА

## Уладзімір ШАНТАРОВІЧ:
# «Пляваць яны хацелі на алімпійскія прынцыпы!..»

*Галоўны трэнер зборнай Беларусі па веславанні на байдарках і каноэ распавёў "Народнай Волі", як "забівалі" яго каманду.*



Днямі стала вядома: Спартыўны арбітражны суд у Лазане адмяніў гадавую дыскваліфікацыю мужчынскай зборнай Беларусі па веславанні на байдарках і каноэ, якую прыняла Міжнародная федэрацыя каноэ з-за падазронняў у парушэнні антыдопінгавых правілаў.

Як паведаміў генеральны сакратар НАК Беларусі **Анатоль Котаў**, апраўдалі ўсю каманду, трэнерскі склад, урачоў і афіцыйных асоб.

*"Мы будзем рыхтаваць іск у суд у Швейцарыі аб кампенсацыі маральнага ўрону, які панесла наша зборная ў сувязі з тым, што не дапусцілі на Алімпійскія гульні і беспадстаўна адхілілі фактычна на паўгода ад трэніровачнага працэсу і міжнародных стартаў"*, – заявіў Котаў.

Таксама беларускі бок мае намер падаць іск аб кампенсацыі выдаткаў на падрыхтоўку да Алімпіяды за чатыры гады.

– Ёсць, безумоўна, маральнае задавальненне, што рашэнне прынята на нашу карысць, – кажа галоўны трэнер весляроў **Уладзімір Уладзіміравіч ШАНТАРОВІЧ**. – І ў станоўчым выніку былі практычна ўпэўнены. Тут жа абсалютна палітызаваная справа. Фактаў супраць нас было нуль!

**– Калі пачалося "паляванне" на беларускую зборную?**

– За некалькі месяцаў да Гульняў – з красавіка мінулага года. Праўда, і раней можна было назіраць спробы ўставіць палкі ў колы, але сур'ёзна на гэта нават увагі не звярталі. А вось у красавіку на нас пайшлі ў самае сапраўднае наступленне. У Францыі падчас нашага знаходжання на зборах, мясцовыя паліцэйскія абшукалі ўсю каманду, ледзь не ваенную аперацыю правялі! А затым Міжнародная федэрацыя каноэ вынесла свой прысуд, хаця абсалютна ніякіх доказаў віны беларускай каманды не было. Як не было і рашэння Міжнароднага антыдопінгавага агенцтва і ўнутранага расследавання. Сабраліся пяць прадстаўнікоў Міжнароднай федэрацыі, паразмаўлялі па скайпе і самі вырашылі: беларускія весляры вінаватыя, на Алімпіяду яны не паедуць. І кожны пралабіраваў інтарэсы сваёй краіны. Вось гэтая "міжнародная спартыўная сям'я" ўзяла і адным лёгкім рухам "забіла" нашу каманду перад Гульнямі.

**– Калі вам стала вядома, што зборную адхілілі ад удзелу ў Алімпійскіх гульнях?**

– За два дні да падачы нашай заяўкі на ўдзел у Алімпіядзе.

**– У сваёй практыцы вы з такімі выпадкамі калі-небудзь сутыкаліся?**

– Ніколі! Гэта ў мяне першы і, спадзяюся, апошні сумны вопыт. Міжнародная федэрацыя каноэ парушыла нават уласны статут, але і сёння яны не разумеюць, што адбылося. Альбо робяць выгляд, што не разумеюць. Вышэйшая інстанцыя – Спартыўны арбітражны суд – заяўляе пра тое, што мы былі невінаватыя, а федэрацыя ў адказ "выказвае шкадаванне і жаданне змагацца за чысты спорт". Дык і я выступаю за чысты спорт! А яшчэ – за прыстойнасць, якая адсутнічае ў тых людзей, што прынялі рашэнне прыбраць хлопцаў з алімпійскай дыстанцыі. Наш алімпійскі чэмпіён Саша Багдановіч спытаўся на судзе ў прадстаўніка федэрацыі: "Вы ўяўляеце, што зрабілі?» Той адказаў: "Я не разумею вашага пытання". Яны, аказваецца, не разумеюць, што зрабілі! Ім усё да лямпачкі! Чалавек, які сябе паважае, пасля такога скандалу адразу напісаў бы заяву аб звальненні, папрасіў прабачэння ў зале суда і пайшоў дадому. Яны ж пакрэмзалі лёсы спартсменаў! Чалавек гадамі ідзе да запаветнай мары, збіраецца фінішаваць на Алімпіядзе, на медаль разлічвае… А яго за шкірку і нагой пад задняе месца! Проста так, без якіх бы то ні было падстаў. Вы нават не ўяўляеце, што я гэтым "змагарам за чысціню ў спорце" жадаў на дадзеным этапе майго жыцця…

**– Але, напэўна, нешта ў сваё апраўданне ініцыятары дыскваліфікацыі казалі падчас судовага працэсу?**

– Нічога не казалі, былі толькі агульныя фразы пра "чысціню ў спорце". Нават афіцыйных выбачэнняў пакуль не дачакаліся за тое, што перад нашай камандай паставілі шлагбаум на дарозе да Гульняў на падставе інфармацыі "блізкіх да следства людзей". Поўны абсурд!

**– Многія выказваюць меркаванне, што беларускую зборную "заказалі" канкурэнты. Ёсць у вас нейкія ўласныя версіі?**

– Я яшчэ раз паўтаруся: прадстаўнікі Міжнароднай федэрацыі лабіравалі інтарэсы сваіх краін, чые зборныя, дарэчы, затым і заваявалі на Гульнях алімпійскія медалі.

**– Ужо вядома, што Нацыянальны алімпійскі камітэт Беларусі падасць іск да Міжнароднай федэрацыі каноэ на суму 2,5 мільёна долараў…**

– Напэўна, гэта правільна падлічаная сума, бо шмат грошай патрацілі на падрыхтоўку да Алімпіяды, а з-за дыскваліфікацыі аказалася, што дарэмна. За ўсё трэба плаціць у гэтым жыцці, так што няхай зараз не робяць невінаватых вочкі.

**– Уладзімір Уладзіміравіч, чаму ў сучасным спорце магчымы такія, здавалася б, абсурдныя сітуацыі?**

– Развал алімпійскага руху пачынаецца тады, калі ў сілу ўступаюць фінансава-эканамічныя рычагі. Сёння Міжнароднае антыдопінгавае агенцтва (ВАДА) лічыць, што яно кіруе ўсім спортам вышэйшых дасягненняў. Не Міжнародны алімпійскі камітэт, а менавіта ВАДА! І людзі, якія павінны займацца, прабачце, толькі аналізамі мачы, лезуць у кіраванне спортам. Яны раяць, каго прыбраць, а каму трэба даваць зялёнае святло… Прасоўваюць інтарэсы сваіх фармацэўтычных кампаній. Напрыклад, прэпарат мельдоній зрабілі забароненым, а свае прэпараты дазволілі. Сёння наркотыкі, зброя і фармакалагічныя сродкі – самыя прыбытковыя сферы ў свеце. Вось за што ідзе вайна – за рынак фармакалогіі! У выніку ВАДА вучыць Міжнародны алімпійскі камітэт, як таму трэба працаваць і якія акцэнты расстаўляць. З такімі падыходамі гэты алімпійскі рух рана ці позна, але развaліцца. Спортам сталі кіраваць брудныя грошы. Вось і ідуць заказы прыбраць тых альбо іншых. І пляваць яны хацелі на алімпійскія прынцыпы і ідэалы! У такі век жывём…

**Алесь СІВЫ.**

**P.S.** *У мінулыя выхадныя стала вядома, што Сусветнае антыдопінгавае агенцтва афіцыйна зняла з беларускіх весляроў усе падазрэнні ва ўжыванні допінгу. Канаіст Максім Пятроў (адзіны прадстаўнік мужчынскай зборнай Беларусі, які яшчэ заставаўся адхіленым ад спаборніцтваў за ўжыванне забароненых рэчываў) таксама выключаны са спісу антыдопінгавага агенцтва.*

ШАШКІ

# Матч сяброў

Матч сяброў па складанні шашачных кампазіцый Расія–Украіна–Беларусь закончыўся.

Перамогу атрымала сборная Расіі. У расіян у камандзе былі толькі два члены – міжнародныя гросмайстры **Уладзімір Матус** і **Аляксандр Мікалаеў**, якія перамаглі па сувораўскім прынцыпе "Не числом, а умением". У асабістым заліку ўпэўнена перамог **Аляксандр Мікалаеў**.

На дыяграме лепшая праблема пераможцы.



**№1** – 20, 43-39, 29, 40, 21, 3(22**A**), 15(24**B**), 33, 50 x **A**(44), 15(24 **C**), 50, 17 x **B**(44), 29-24, 50 x **C**(22), 29-24, 50(27), 28(11, 32), 33(37), 47 x.

# Дэбютанты шашачнага аддзела

Першы з іх – **Міхаіл Цветаў**. Нядаўна ён адсвяткаваў 70-гадовы юбілей. Дзяцінства і ранняя маладосць яго прайшлі ў Беларусі, у горадзе Гарадок Віцебскай вобласці. Тут і пачалося захапленне шашкамі і асабліва шашачнай кампазіцыяй. Са слоў Міхаіла, "кампазіцыя моцна схапіла ў свае абдымкі і не адпускае да гэтага часу". Удзел у 4-м Усебеларускім конкурсе 1966 года прынёс першую перамогу у канцоўках-64 і трэці прыз у эцюдах-64. З таго часу яго вынікі замацаваны ў верхніх радках турнірнай табліцы амаль ва ўсіх спаборніцтвах любога ўзроўню. Зараз наш былы зямляк жыве ў Ізраілі, але сувязі з малой радзімай не страчвае. Сваім былым землякам Міхаіл прысвячае новую праблему.

**№2** – 36-31, 41, 31, 23, 26, 39(34**A**), 30, 39, 39 x. **A**(30), 38(35), 38-33, 34 x.

Дзве наступныя дамачныя праблемы ён даслаў на конкурс "Беларусь-2016".

**№3 Белыя**: 14, 15, 23, 24, 26, 28, 29, 31, 40, дамкі 35, 45 (11).

**Чорныя**: 2, 8, 12, 17, 21, 22, 27, 30, 33, 38, 39, дамкі 16, 36 (13).

9, 14, 13, 4, 11, 8, 18(34**AB**), 29, 45-18(13), 19 x. **A**(9), 1(38), 6(42), 34(48), 39(37), 28 x. **B**(29), 34(30**C**), 45-18, 4:27:25(38), 48 x. **C**(40), 27(22), 27(39), 49 x.

У галоўным варыянце бесперапынная серыя баёў з 15(!) паўхадоў.

**№4 Белыя**: 33, 34, 40, 42, дамкі 36, 39, 45 (7).

**Чорныя**: 19, 20, 38, дамкі 1, 15, 25 (6).

33-29, 48(43**A**), 41(20**BC**), 10, 34, 15 x. **A**(24), 47, 23(29), 34, 45:20 x. **B**(42), 4, 34, 47 x. **C**(34), 29(42**D**), 4, 45-18, 48 x. **D**(20), 10, 45-18, 25 x.

Другі дэбютант – **Іван Івацка** з украінскага горада Вінніца. Іван Дзмітрыевіч – суддзя міжнароднай катэгорыі па шашачнай кампазіцыі, а таксама старшыня камісіі па шашачнай кампазіцыі Украіны. Усе апошнія чэмпіянаты Беларусі праходзяць з яго ўдзелам.

**№5 Белыя**: a5, b4, c7, f6, g1, g5 (6).

**Чорныя**: b6, d8, g3, h2, h6, h8 (6).

**№6 Белыя**: a5, b6, c1, e7, g7, g5 (6).

**Чорныя**: a3, b2, b8, d4, e3, f2 (6).

**№7 Белыя**: a7, b4, b6, c5, g1, g5 (6).

**Чорныя**: a3, b2, e3, e7, f8, h6 (6).

Аўтар наступнай пазіцыі – добра вядомы нашым чытачам **Генадзь Андрэеў** (Латвія).

**№8 Белыя: b6, c5, d4, d6, e5, h2** (6).

**Чорныя: b2, d8, e7, f4, f8, g3** (6).

Такім чынам, пазіцыі №5–8 з'яўляюцца заданнямі чарговага бліц-конкурсу. Пераможца атрымае прыз – шашачную кнігу. Просім чытачоў у адказах на магчымасці ўказваць кантактны тэлефон.

Наступныя пазіцыі па міжнародных шашках належаць другому аўтару, якога таксама ведаюць нашы чытачы. **Рыгор Краўцоў** (в.Рублёўск Круглянскага раёна Магілёўскай вобласці) – нацыянальны майстар спорту па шашачнай кампазіцыі.

**№9 Белыя**: 18, 20, 21, 23, 27, 29, 36 (7).

**Чорныя**: 7, 8, 9, 10, 12, 17, 37 (7).

22, 23, 31, 15, 33 x.

**№10 Белыя**: 15, 19, 22, 24, 25, 27, 32, 37, 42, 43 (10).

**Чорныя**: 7, 8, 9, 13, 16, 34, 35, 39, 45 (9).

10, 21, 4, 15, 1, 1:40(44), 50 x.

**№11 Белыя**: 6, 7, 11, 19, 21, 24, 30, 34, 40 (9).

**Чорныя**: 1, 2, 8, 9, 10, 12, 13, 18, 25 (9).

17, 14, 3, 26, 5(50), 28(23), 7, 28 x.

**№12 Белыя**: 8, 17, 19, 26, 27, 32, 35, 41, 43, 44, 45 (11).

**Чорныя**: 2, 9, 10, 13, 16, 20, 24, 25, 30, 38, 45 (11).

37, 21, 34, 29, 4, 35, 43 x.

**№13 Белыя**: 20, 23, 24, 29, 33, 35, 39, 41, 43, 47, 48, 49, 50 (13).

**Чорныя**: 7, 8, 9, 10, 12, 14, 15, 17, 22, 25, 32, 37, 45 (13).

49-44, 41, 42, 38, 18, 4, 40, 45(19), 44-40(24, 14), 30(19), 24, 40 x.

**№14 Белыя**: 6, 11, 16, 19, 21, 24, 28, 30, 31, 33, 37, 40, 42, 45, 49 (15).

**Чорныя**: 1, 2, 9, 10, 12, 17, 21, 22, 23, 27, 35, 36, 39, 44 (14).

32, 7, 8, 22, 1, 13(44,44), 40, 18(9, 40), 22(45), 50(7), 38(11, 50), 38-33 x.

# Супаставім рашэнні

Рашэнне пазіцый бліц-конкурсу "НВ" ад 18 кастрычніка 2016 года.

**№8** – d6, b4, c7, d8, a3(g3), b8(f2**A**), g3, d6 x. **A**(h2), a7(g1), a3-c5 x

**№9** – d6, c5, c7, c7(f6), f4, f4 x.

**№10** – b6, d4, f8, g5(f6), e7(c3), g7(d2), c3, c5(b6, b4), f8(c3), b4, b8 x.

**№11** – b6, cd8, cb6(c7**A**), h4, f6, c1 x **A**(d6), b6-c7, f6, h2 x.

**№12** – c5, h6, c7, d6, e7(b8), h6, f8 x.

Першыя свае адказы даслалі: **Аляксандра Камінская** (Вілейка), **Леанід Жыхар**, **Фёдар Карпей** (Мядзел), **Юрый Голікаў** (Цвер, Расія), **Віталь Варушыла**, **Іван Наўроцкі**, **Альберт Ліцвінаў**, **Эдуард Дамброўскі** (Мінск), **Аляксандр Шурпін** (Івянец), **Уладзімір Бандарык** (в. Луговая Слабада Мінскага раёна), **Мікалай Зайцаў** (Баранавічы), **Уладзімір Сергіеня** (в.Войкава Уздзенскага раёна), **Ігар Ананіч** (Гродна), **Рыгор Краўцоў** (в.Рублёўск Круглянскага раёна), **Уладзімір Валчкоў** (Маладзечна), **Аляксандр Голуб** (в.Талька Пухавіцкага раёна), **Уладзімір Панько** (г.Камянец).

Перамогу атрымаў **Ігар Ананіч**. Віншуем!

Свае лісты дасылайце на адрас: 220030 Мінск, вул. Энгельса, 34а, "Шашкі", або на электронныя адрасы: **saf20016@yandex.ru, shulga.checkers@gmail.com.**

**Віктар ШУЛЬГА,** міжнародны майстар спорту па шашачнай кампазіцыі.

ГРОШЫ

# Паўмільёна еўра – на ўсіх

*Беларускія футбольныя клубы атрымалі ўзнагароджанне ад УЕФА.*

Саюз еўрапейскіх футбольных асацыяцый вызначыў 150 мільёнаў еўра клубам з усіх 54 нацыянальных федэрацый, чые ігракі бралі ўдзел у кваліфікацыі і фінальнай стадыі Еўра-2016.



Беларускія клубы ў агульнай складанасці атрымалі каля 533 тысяч еўра. Больш за ўсіх зарабілі барысаўскі БАТЭ (283 тыс.), мінскае "Дынама" (131 тыс.) і салігорскі "Шахцёр" (64 тыс.).

ГІСТОРЫЯ ЗДЫМКА

# «На Беларусі Бог жыве!»

3 ліпеня 2015 года. На фота – вядомы беларускі палітык **Павел Севярынец** са сваёй жонкай **Вольгай**.

*"Мы з Волечкай пасля пяці дзён пешай пілігрымкі з Мінска ў Будслаў, – распавёў Павел. – Пілігрымка – гэта вобраз чалавечага жыцця: праз выпрабаванні, дождж і спёку ідзеш насустрач Богу. Будслаў у гэтыя дні ператвараецца ў сэрца Беларусі – дзясяткі тысяч вернікаў, беларуская мова паўсюль, ніякага мата і хамства".*

На фотаздымку Павел і Вольга перад касцёлам чакаюць набажэнства, якое праводзіцца пад адкрытым небам.



*"У сталіцы ў гэты дзень людзей сагналі на парад да прыдуманага "Дня незалежнасці", а тут – цэлыя сем'і, суседзі, сябрыны, – дадае наш суразмоўца. – Толькі што на ўваходзе перад міліцэйскімі кардонамі (абшуквалі ўсіх, каб не пранеслі ўлёткі ці сцягі) мы разам з трыма сотнямі спартанцаў з Мінскай пілігрымкі скандзіравалі так, што дрыжэлі шыбы ў хатах: "На Беларусі Бог жыве!"*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ХАКЕЙ

# З кім згуляе «Дынама»?

*Хакеісты сталічнага клуба датэрмінова выйшлі ў плэй-оф Кантынентальнай хакейнай лігі.*

Рэгулярны чэмпіянат пакуль не закончыўся ("Зубрам" засталося правесці яшчэ чатыры матчы), а таму невядомы і сапернік мінскай каманды. Хутчэй за ўсё, гэта будзе яраслаўскі "Локомотив", маскоўскае "Динамо" ці падмаскоўны "Витязь".

Дададзім, што "Дынама" ў чацвёрты раз за ўсю гісторыю свайго існавання трапляе ў плэй-оф КХЛ. Апошнім разам яны былі ў Кубку Гагарына ў сезоне 2014/2015.

Адрас рэдакцыі: 220030, Мінск, вул. Энгельса, 34а. Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ



Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

9 772071 964000 17011

Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 06.02.2017 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 25 020 экз. Заказ № 464.